*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 21(406)** **26 ТРАЎНЯ 1999 г.**

## Добры дзень дарагая рэдакцыя!

Пішa вам беларускамоўны клас 9 "А" СШ № 191 . Мы вырашылі звярнуцца да вас па дапамогу: наш клас збіраюцца зачыняць, так як ён эканамічна нерэнтабельны. Клас збіраюцца расфармаваць, не ўлічваючы нашага жадання працягваць вучыцца на роднай мове.

Мы першы беларускамоўны клас у нашай школе, і яго захаваюць толькі тады, калі ў ім будзе вучыцца 25 чалавек. Але зараз нас толькі 20, і амаль палова будзе пастулаць у іншыя навучальныя ўстановы.

Нас вельмі абураюць абыякавыя адносіны і зневажанне беларускай мовы і культуры.

За дзевяць год навучання мы далучыліся да беларускіх традыцый і культуры. І вельмі крыўдна тое, што сам беларускі народ знішчае сваю спадчыну.

Нікім не ўлічваюцца нашы пачуцці, інтарэсы і пажаданні, нават тое, што застаюцца самыя моцныя вучні. Усе мы вельмі прывыклі адзін да аднаго і нас аб'ядноўвае любоў да нашай Беларусі.

Яшчэ вельмі шкада нашага класнага кіраўніка Бабінскую В.Ул. , якая шмат чаго зрабіла для нашага класа. Яна вельмі хвалюецца за наш далейшы лёс і прыкладае ўсе намаганні каб вырашыць гэтую праблему.

Што ж гэта робіцца ў нашай краіне, калі знішчаецца беларускі этнас і ўсё, што яму належыць!!!

Нам прапанавалі ісці ў расейскамоўныя класы ці ў іншую школу,але гэта не выйсце, бо мы маем права атрымаць адукацыю на роднай мове і па месцу жыхарства.

Мы просім у вас дапамогі ў вырашэнні гэтага пытання. Калі ласка не пакіньце наш ліст без увагі, бо менавіта гэта паўплывае на наш далейшы лёс.

*З павагай, вучні 9 "А"класа.*

## Наперадзе чарговая канферэнцыя

19 траўня ў Горадні адбылося пашыранае пасяджэнне Гарадзенскай гарадской і Гарадзенскай абласной Рады ТБМ.

Было вырашана склікаць чарговую справаздачна-выбарчую канферэнцыю гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ у Горадні 6 чэрвеня 1999 года ў памяшканні Гарадзенскага ўніверсітэта (корпус філфака). Пачатак працы канферэнцыі ў 11.30. Нормы прадстаўніцтва: ад Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ – 7 чалавек, ад гарадзенскай раённай – 5 чалавек, ад Лідскіх гарадской і раённай арганізацыі – па 5 чалавек, ад Дзятлаўскай, Смаргонскай, Ваўкавыскай раённых арганізацый ТБМ, ад Карэліцкай, Навагрудскай і Слонімскай суполак ТБМ – па аднаму дэлегату. Было выказана пажаданне да ўсіх кіраўнікоў вышэйзгаданых арганізацый правесці сходы па вылучэнню сваіх прадстаўнікоў да 1 чэрвеня і звесткі прадаставіць кіраўніку Гарадзенскай абласной арганізацыі, прафесару Паўлу Сцяцко.

Праезд усім дэлегатам у абодва бакі будзе аплочаны. У працы пашыранага сходу кіраўнікоў ТБМ Гарадзеншчыны прыняў удзел старшыня ТБМ Алег Трусаў.

### Таварыству беларускай мовы ад вучняў 9"А" класа сярэдняй школы № 191 Першамайскага раёна г.Менска

**Заява**

Сутнасць нашай заявы заключаецца ў тым, што ў СШ №191 збіраюцца зачыніць беларускамоўны клас, так як ён эканамічна нерэнтабельны. Клас застаецца толькі тады, калі будзе 25 вучняў, але зараз нас толькі 20 і палова будзе пастулаць у іншыя навучальныя ўстановы. Усе 9 гадоў мы вывучалі ўсе прадметы на беларускай мове, і нам будзе складана перайсці на рускую мову. Існуе яшчэ адна праблема калі застанецца наш клас, няма для нас поўнага камплекту настаўнікаў.

Мы просім вас дапамагчы нам у вырашэнні гэтага пытання. Калі ласка, не пакіньце нашу заяву без увагі.

Бакіноўская Хрысціна
Кандратовіч Алеся
Тузава Анастасія
Матвеенка Ганна
Захаранка Вікторыя
Шырочына Кацярына
Дашкевіч Аксана
Шасцярнёва Таццяна
Федарэнка Ганна
Дзямко Кірыл
Грыгараш Аляксей
Паваротны Алег
Башунец Сяргей
Ярашэвіч Павел
Агарак Артур

Вось такі ліст быў дасланы вучнямі 9 "А" класа Менскай СШ № 191 у сем газет. Дзеці прасілі дарослых аб дапамозе, адгукнуліся на колькі нам вядома "Навіны" добрым артыкулам "Нерэнтабельнасць роднай мовы"і "Свободные новости" надрукавалі вучнёўскі ліст. У размове мы высветлілі, што і дырэктар і настаўнікі таксама за захаванне беларускага класа. Але ж дзейнічаюць нарматывы, клас толькі застаецца ў выпадку, калі ў ім ёсць 25 вучняў. Дзеля змагання за захаванне гэтага беларускага класа ТБМУ, каб усё было юрыдычна бездакорна патрэбны быў зварот аб дапамозе. Дзеці прывезлі ліст падпісаны імі і іх бацькамі. Цяпер мы будзем "размаўляць" з міністэрствам адукацыі, міністр якога Васіль Стражаў на недаўнім з'ездзе ТБМ заявіў: "Думаю трэба будзе ўнесці карэктывы ў існыя нарматывы, каб магчыма было адкрываць беларускамоўныя класы ў школе, калі там няма і пэўнай колькасці вучняў". – Зараз здаецца наступіў менавіта такі момант. ВУчні 9 "А" класа сказалі, што прыйдуць на пікет 25 –га, каб з плакатамі ў руках бараніць родную мову.

У ТБМ зараз 2,5 тысячы сталых сяброў і шмат тысяч прыхільнікаў. Чаго будзем вартыя мы, калі не пастаім за гэтых беларускіх дзяцей, якія адстойваюць сваё неад'емнае права вучыцца па-беларуску.

"Наша слова" і надалей будзе адсочваць інфармацыю на гэты тэму.

*Алесь Гурыновіч.*

## Шукайце нас у Дадатку № 1

Шаноўнае спадарства! Мы ізноў прапануем вам падпісацца на нашую газету. Мы рады паведаміць вам, што ў траўні колькасць падпісчыкаў склала 2815 асобаў і арганізацый. Дзякуй за падтрымку. Але не абышлося без прыгодаў. Белпошта надзвычай апэратыўна выдала Каталог падпіскі на другое паўгоддзе. Мы своечасова падалі звесткі пра цэны на нашую газету, але ў печым не паспелі. Такіх, як мы, яшчэ газет пяцьдзесят. Таму ў асноўным Каталогу няма цаны на "Наша слова", але яна ёсць у **Дадатку №1** , які ўжо паступіў на ўсе аддзяленні сувязі і ўклееныя ў асноўны Каталог. Калі на якую-небудзь вёску Дадатак не паступіў, патрабуйце каб начальнік вузла сувязі тэлефанаваў у раён ці вобласць і ўдакладняў цану. Заставайцеся з намі. "Наша слова" павінна стаць газетай усіх беларусаў.

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | **120000** руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)



№ 21(406) 26 ТРАЎНЯ 1999 г. наша слова

# Завочная размова з міністрам адукацыі напярэданні асамблеі ТБШ



Гаворачы аб стане беларускамоўнага навучання, чыноўнікі ад асветы звычайна прыводзяць лічбы аб колькасці школ з беларускай мовай навучання, якіх цяпер у нас 2874, г.зн., 61.6% ад агульнай колькасці. За гэтай лічбай, якая штогод памяншаецца, хаваюцца факты існавання малакамплектных вясковых устаноў, што мала ўплываюць на агульны стан. Больш уражальныя і абуральныя звесткі падае дынаміка па колькасці вучняў, што навучаюцца на беларускай мове (усяго 30,5%, паменшылася на 2,1% у параўнанні з мінулым годам). Як яна пагаршалася відаць з наступнай табліцы прыёму ў першы клас (у працэнтах ад агульнай колькасці):

| | 93-94 | 94-95 | 95-95 | 96-97 | 97-98 | 98-99 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Па рэспубліцы** | 76.0 | 75.3 | 37.9 | 32.0 | 28.7 | 9.7 (у падрыхт.класе – 33.6) |
| **У сталіцы** | 58.6 | 58.0 | 19.5 | 12.1 | 7.3 | 4.7 (5.3 разам з падрыхт.класам) |

Нешта не ладзіцца з логікай і матэматыкай у доктара фізіка-матэматычных навук міністра В.Стражава, які яшчэ ў 1992 г. паабяцаў, што "Прыблізна праз дзесяць гадоў сістэма адукацыі будзе поўнасцю беларускамоўнай" (ЛіМ. 6 сак.). Ці не наадварот атрымліваецца, Васіль Іванавіч?! Ці можа паверым новым абяцанкам, у якіх Вы запэўніваеце нас, што цяпер нібы гісторыя Беларусі, геаграфія, мастацтвазнаўства, музычная культура ў рускамоўных класах выкладаецца па-беларуску. Прачніцеся! Такога становішча яшчэ не дасягнута і ў роднамоўных класах. Прабачце, але, улічваючы досвед вашага прагназавання і рэальнасці спраў, не магу пагадзіцца з новымі думкамі: "Калі мы будзем ісці такім шляхам, у бліжэйшыя 5-7 гадоў у школах з рускай мовай навучання 30-35 % прадметаў будуць выкладацца па-беларуску. І пытанне аб тым, што будзе юны грамадзянін Беларусі ведаць беларускую мову ўжо не будзе стаяць так востра" (Звязда. 10 крас.).

Шаноўны міністр, каб дасягнуць хаця б гэтага, неабходна ісці да яго, а не пагаршаць становішча. Ваш мінулагодні загад № 243, якім скасавана абавязковае вывучэнне беларусазнаўства, паніжана колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы і гісторыі на факультэтах негуманітарных спецыяльнасцяў, якраз сведчыць пра дрэнныя намеры. Горш таго, міністэрства не бярэ на сябе адказнасць за выкладанне ў ВНУ нават гэтых установак. Так, напрыклад, дэканат фізічнага факультэта БДУ, дзе я працаваў, нягледзячы на пратэсты самавольна яшчэ больш панізіў колькасць гадзін на вывучэнне фізічнай навуковай тэрміналогіі і лексікалогіі, перавёўшы прадмет у разрад не абавязковага факультатыўнага вывучэння.

Вельмі марудна ідзе падрыхтоўка з выпускам падручнікаў на беларускай мове. Студэнты-фізікі і хімікі БДУ самі перакладаюць іх на родную мову. А як паведамляе нам Цэнтр кнігі, рэктары не даюць заказаў на беларукамоўную літаратуру, якая падрыхтавана ці рыхтуецца. Ці гаспадар Вы, шаноўны міністр, у сваім доме?

Лепш становішча з беларускамоўным выкладаннем у педагагічных вучылішчах. Статыстычныя дадзеныя па дашкольных установах далёка не адпавядаюць рэальнасці. Існуе шмат іншых фактаў гэтага кшталту.

Самавольства чыноўнікаў у парушэнні нават існага заканадаўства і нарматыўных актаў пераўзыходзіць усе межы. Дайшло нават да таго, што не наглядалася ў мінулую, так званую застойную пару – перавод вясковых школ на чужамоўнае навучанне і выхаванне. У мінулым годзе такіх школ было 55 і 4 гарадскія, цяпер дадалося яшчэ 32 і 2 гарадскія, хаця здараюцца і асобныя прыемныя выпадкі адкрыцця беларускіх школ. Дарэчы, у Менску няма ніводнай школьнай установы з беларускай мовай навучання. Цяпер ужо не толькі менская СШ № 19 імя Я.Купалы не мае ніводнага роднамоўнага класа, якая у мінулым мела добрыя беларускія традыцыі, але і вязынкаўская школа, дзе малая радзіма вялікага песняра, перайшла на рускую мову.

А такія дзеячы, як М.Фяськоў, начальнік галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства, тлумачаць справядлівасць вяртання да рускай мовы як супрацьдзеянне ранейшаму прымусоваму характару і паспешлівасцю беларусізацыі, волевыяўленнем народа, а не скрытым сілавым вывіхам антынароднай палітыкі вярхоў, што здзіўляюць увесь цывілізаваны свет.

Карыстаючыся момантам, хачу даць джэнтэльменскую параду тым, хто яшчэ раз захоча сказаць, што ў нас існуе права выбару мовы навучання, не рабіць гэтага, калі ён паважае сам сябе. У Беларусі ўжо дастаткова свядомых людзей, якім нельга вешаць лапшу на вушы, як і нельга таксама здзекавацца з несвядомых, падманутых яўным цынізмам, які патыхае ад падобных заяў. Думаю, у гэтым вы, шаноўны міністр, пераканаліся, калі паспрабавалі на нядаўнім з'ездзе ТБМ гаварыць не па "тэме". Прабачце, але там сабраліся людзі, якія ведаюць праблемы школы і роднай мовы. Упэўнены, што ў прамой адкрытай дыскусіі не адзін бы з іх змог бы заткнуць за пояс любога чыноўніка асветы.

Ведаю, што ў тым жа міністэрстве і іншых установах ёсць таксама нямала патрыятычна свядомых людзей, сапраўдных прафесіяналаў. Скажу больш, яшчэ невядома якое было б становішча з беларускай мовай, калі б на месцы В.Стражава быў нехта іншы. Можа ён і ёсць тая, найбольш прыдатная кандыдатура на гэты пост у такі складаны пераходны час, каб выканаць найлепш якасць таго матэрыялу, што знаходзіцца паміж малатком і кавадлам, як кажуць у такіх выпадках.

І ўсё-такі хачу зрабіць наступную выснову, што сённяшні стан з беларускай мовай у грамадстве ў пэўнай ступені адлюстроўвае працу Міністэрства адукацыі. А яе неабходна прызнаць як катастрафічны правал, як у навучанні, так і выхаванні. На парозе XX стагоддзя з грамадстве, дзяржаўных установах вольна пануе нацыянальны нігілізм і расейскі шавінізм, падтрымліваецца адыход ад многіх агульначалавечых каштоўнасцей. Бяздумныя вынікі працэсу лінгвацыду (знішчэнне мовы) і мнемацыду (знішчэнне гістарычнай памяці, па вызначэнню В.Грыцкевіча), што цяпер вельмі сказваецца ў лёсавызначальным перыядзе беларусаў, прыйдзецца ўсё ж ліквідоўваць нашым нашчадкам, што будуць праклінаць нас за дарэмна страчаны час, калі астатнія народы ішлі да свайго дабрабыту. Таму асноўная рэформа школы яшчэ наперадзе.

Па асобных кірунках дзейнасці ў сферы адукацыі мы сапраўды прыбліжаемся да міжнародных стандартаў, аднак у той галіне, пра якую вядзём гаворку, мы безнадзейна адсталі ад блізкіх і далёкіх суседзяў. Новае стагоддзе для беларусаў у адбудаванні свайго нацыянальнага дома стане прыярытэтным і вызначальным. Іншага шляху не існуе, калі не лічыць паўнейшую дэградацыю ў нацыянальна- грамадскім і эканамічным жыцці.

У 1989 годзе, калі стваралася ТБМ, то за аснову бралі статут ТБШ, якое існавала ў Заходняй Беларусі з 1921 па 1939 г. А ў 1996 годзе ствараючы нашу грамадскую арганізацыю на базе менскага бацькоўскага камітэта, не пазбеглі моцнага ўплыву існага – ТБМ. Здалёку заўсёды бачыцца лепш. Магчыма ў самым пачатку адраджэння патрэбна было скарыстаць напрацаваныя папярэднікамі традыцыі, а не глядзець, што, напрыклад, украінцы стварылі таварыства мовы імя Т.Шаўчэнкі, то і нам туды ж.

Каб не атрымаліся дзве зусім дублёўныя арганізацыі, у мяне, як старшыні аргкамітэта, існавала думка аб заснаванні грамадскай акадэміі, у якую б уваходзілі таксама і прадстаўнікі дзяржаўных структур (міністэрства адукацыі, РАА, педагагічных устаноў і арганізацый і г.д.), якія б за "круглым" сталом вырашалі многія пытанні, уплывалі б адзін на аднаго. На той час гэтага можна было б дасягнуць. Але, як ні крыўдна, на такі кампраміс не пайшлі найперш мы.

Многія мерапрыемствы мы ладзілі сумесна з ТБМ. Бадай першае з іх – сустрэча са Старшынёй Вярхоўнага Савета С.Шарэцкім, якая, лічу вельмі паўплывала на пераарыентацыю ў поглядах гэтага грамадскага дзеяча. Тады нашу групу ўзначальваў ужо апальны першы нам. Міністра адукацы, прэзідэнт ТБШ Генадзь Пятроўскі, зняты з пасады А.Лукашэнкам за стварэнне новых падручнікаў па сапраўднай гісторыі Беларусі.

Затым былі асобныя сумесныя мерапрыемствы: пікеты і мітынгі ў падтрымку мовы, нават рэспубліканскія рады двух арганізацый, напрыклад, "Беларускамоўнае навучанне: стан, праблемы, шляхі вырашэння" у 1997 г., збор подпісаў за стварэнне нацыянальнага універсітэта, матэрыялу "шэрай кнігі" і інш. Наша адметнасць у больш паглыбленым пранікненні ў праблемы навучальных устаноў усіх тыпаў.Так, мы апякуемся дзейнасцю "этнашколаў" (кіраўнік Ілля Сучкоў), якія разглядаем як правобраз нацыянальнай школы. Цікавая работа вядзецца ў гэтым кірунку ў СШ № 89 г.Менска (дыр.В.Саладуха), Сеніцкая СШ Менскага раёна (нам.дырэктара Б.Іванова), СШ № 6 Вілейкі (дыр.А.Сляпцоў) і інш. Ствараюцца дапаможнікі па забяспячэнні іх дзейнасці: серыі выданняў "Фальклор у школе", " Бібліятэчка народных свят і прысвяткаў", "Беларусазнаўства" і інш.).

Самай значнай падзеяй апошняга часу стала правядзенне ТБШ конкурса творчых работ" Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...", у якім прыняло ўдзел каля тысячы школьнікаў. Больш 600 дзяцей атрымалі граматы пераможцаў, многія з іх каштоўныя падарункі, льготныя пуцёўкі на адпачынак за мяжу і інш.

Гэта таксама з'яўляецца нашай адметнасцю ад ТБМ, якая сплочвае дзяржаве вялікія сродкі сваіх ахвяравальнікаў на ўтрыманне памяшкання пад офіс. Мы пакуль неяк умудраемся нават матэрыяльна падтрымліваць сваіх сяброў. Вось і нядаўна заахвоцілі тых дзяцей, якія па розных прычынах пацярпелі, змагаючыся за роднамоўнае навучанне. Хаця здараецца так, што самі церпім. Вось нядаўна атрымалі пісьмовае папярэджанне з Міністэрства юстыцыі за "палітычную" дзейнасць, яшчэ адно папярэджанне і ТБШ могуць ліквідаваць.

Запрашаем усіх зацікаўленых на 2-ую справаздачна-выбарную Асамблею ТБШ 29 траўня (а 11 гадзіне) у СШ № 2 г.Менска (пр.Ракасоўскага, 93), дзе будзе весціся гаворка па розных праблемах беларускамоўнага навучання і выхавання. Дэлегаты ад суполак павінны мець выпіскі з пратаколаў пасяджэння.

*Алесь Лозка, віцэ-прэзідэнт ТБШ.*

# Споведзь былога саўка

Мне старому чалавеку, выканаўшаму ўсе тры боскія запаведзі: пабудаваўшаму дом, вырасціўшаму сад, выхаваўшы сыноў, Бог падараваў яшчэ і час на роздум, споведзь і пакаянне.

Гэты час супаў, відаць зноў жа не без Боскай міласці з незалежнасцю нашай Бацькаўшчыны, з адраджэннем нашай свядосці, мовы, веры і гісторыі. Менавіта НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ разбудзіла мае нацыянальныя гены, а тыя ў сваю чаргу раскрцілі цягу да роднай мовы, да веры, да нацыянальнай свядомасці, чалавечай годнасці і адраджэння Беларушчыны.

Шмат пытанняў паставіў мне лёс, вырашыць якія ох як не лёгка (!) Прыярытэтнымі былі мова і вера. Агульна вядома, што вера – гэта душа чалавека, а мова – душа народа. На першы погляд мне здавалася, што я паставіў сабе амаль невырашальныя задачы. Бо шукаць у нашым грамадстве і першае і другое – раўназначна што шукаць іголку ў стозе сена.

Найбольш цяжкімі аказаліся першыя крокі. З маленства я любіў родную мову, як і ўсе аднавяскоўцы карысталіся толькі ёй паўсядзённым побыце. Але ж гэта бало так даўно. Апошнія пяцьдзесят пасляваенных гадоў давялося ўжываць мову можа і лепшую, але чужую.

Першыя крокі ў станаўленні роднай мовы былі даволі цяжкімі, я адчуваў сябе дзіцем, якое пачынае вучыцца хадзіць.

Часам быў у роспачы, бо лягчэй у Полацку сустрэць чалавека з чорнай скурай, чымся беларуса з якім можна паразмаўляць на роднай мове. Але я чытаў толькі беларускія выданні, успамінаў знаёмыя з дзяцінства вершы, вучыў на памяць новыя і нават размаўляў услых сам з сабою. Крыху ўладкаваўшыся пачаў шукаць нацыянальнае асяроддзе. Гэта была нават больш цяжкая задача, бо паўсюдна, дзе даводзілася сутыкацца з людзьмі, часцей чуў асуджэнне, знявагу і паклёп, чымся спачуванне і падтрымку. У роднай стыхіі я пачуваў сябе падчас мітынгаў і шэсцяў, калі траплялася бываць у сталіцы. Амаль праз пяць гадоў, як я ўжо добра авалодаў роднай мовай, цяпер ужо шукаючы шляхі да веры, мне пашчасціла знайсці родны куточак Беларушчыны – аазіс лагоднасці, змірэння, пакою, увагі, малітваў і песень да Бога ў самым цэнтры горада ў грэка-каталіцкай царкве.

Пачынаючы са старэйшага пакалення, якое звычайна шукае сцяжынку да споведзі і пакаяння, сярод вернікаў шмат людзей сталага ўзросту і маладых з дзецьмі. Усё тут наша беларускае. Служба вядзецца толькі на беларускай мове, але мы аб'яднаны не толькі роднай мовай, а і аднымі думкамі, адзінымі турботамі, аднымі малітвамі і адзіным шчасцем жыцця на гэтым свеце, на роднай замардаванай зямлі.

Мы молімся "за Богам сцеражонаю краіну, нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасць у веры, мужнасць у выпрабаваннях і вернасць свайму народу ўсіх нас".

Часам зашчыміць маё старэчае сэрца, калі а. Пахомій заклікае памаліцца "за урад, належныя ўлады і ўсіх, што сцерагуць цэласці і спакою гэтае краіны", якія на сучасным этапе давялі значную частку найбольш абяздоленых людзей да гаротнага стану, але сваімі малітвамі мы сцвярджаем: "Шчаслівыя тыя, што маюць голад і смагу справядлівасці, бы яна насыцяцца" і просім гэтага ў Госпада. Наша нядзельная літургія звычайна заканчваецца спяваннем царкоўных беларускіх песень: "Мы хвалім Бога", "Дай добры Божа", "Божа, што калісь народы" ды ін-шых. Развітваемся між са-бою зноў жа агульнай малітваю "Магутны Божа", якая заканчваецца заклікам да Усявышняга: "Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш народ".

Пакідаю царкву заўсёды ўміратвораным, спакойным, задаволеным, улюбёным у Госпада і вернікаў з якімі маліўся за будучае шчасце нашай краіны і яе людзей.

А па дарозе ўспамінаю словы нашага сучаснага змагара за Беларушчыну Н.С.Гілевіча выпісаныя мною яшчэ ў 1992 г. (Н.Г. 22.06): "Ва ўсіх уваскрэслых да жыцця і росквіту славянскіх краінах – і праваслаўных і каталіцкіх – царква брала справу нацыянальнага адраджэння ў свае рукі, ратавала народ і яго мову ад асіміляцыі, была агменем духоўнага (і не толькі!) супраціўлення заваёўнікам". Я далучаюся да слушнай думкі Ніла Сымонавіча і сцвярджаю, што наша царква павінна стаць падмуркам станаўлення беларускай мовы, адраджэння Беларушчыны і абаронцам нашай незалежнасці. Адродзім родную старонку! Жыве Беларусь!

*Бурдыка П.Я.*
*г. Полацк.*



# Зараз можна

Зараз у сядзібе ТБМ можна прыдбаць беларускамоўныя рэчы, шмат з якіх больш нідзе не сустрэнеш. Гэта разнастайныя беларускія кнігі. А таксама на аснове відэаклуба, дзе па суботах а 12 гадзіне адбываецца дэманстрацыя фільмаў вытворчасці ЗША дубляваных на беларускую мову можна прыдбаць і іншыя відэакасэты з гэтымі фільмамі. Зараз адбываецца паказ такіх стужак як " Пяты элемент", "Ісус", "Парк Юрскага перыяду", мультфільмы "Прыгажуня ў сонным лесе", і "Аліса ў краіне цудаў". У перспектыве будуць з'яўляцца і іншыя рэчы такога кшталту. Так, што заходзьце, будзем рады.

*Алесь Гурыновіч.*

## ПАРАДАК ПРАВЯДЗЕННЯ МАСАВЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ У СЯДЗІБЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (г.Менск, вул.Румянцава,13)

**Дзень тыдня; Назва мерапрыемства; Адказная асоба Час правядзення.**

1.Панядзелак паседжанне Народнага універсітэта, Анцулевіч з 18.00 да 20.00.

2. Аўторак паседжанне Менскай гарадской Рады ТБМ, Саламонаў з 17.00 да 19.00.

3. Серада паседжанне Народнага універсітэта, Анцулевіч з 18.00 да 20.00.

4. Чацвер паседжанне Сакратарыяту ТБМ, Трусаў з 17.00 да 19.00.

5. Пятніца паседжанне маладзёвага клуба, Гурыновіч з 17.00 да 19.00.

6. Субота паседжанне беларускага кінаклуба Станішэўскі з 12.00 да 14.00.

7. Нядзеля паседжанне клуба аматараў бардаўскай песні, Латушкін з 18.00 да 20.00.

Плануецца з чэрвеня па нядзелях з 17.00 да 20.00 праводзіць літаратурныя семінары (кіраўнік Славамір Адамовіч)

# Канферэнцыя ў Вільні

30 красавіка – 1 траўня 1999 года ў старажытнай Вільні адбылася Міжнародная канферэнцыя "Перспектывы супрацоўніцтва летувіскіх і беларускіх няўрадавых арганізацыяў" які наладзілі Цэнтр Супольнасць (Беларусь), Віленскі цэнтр грамадзянскіх ініцыятыў "Дэмакратыя для Беларусі" і Ліга маладых кансерватараў Летувы (Летува). У складзе беларускай дэлегацыі былі і прадстаўнікі ТБМ.

Галоўная мэта канферэнцыі гэта ўнікальная магчымасць правесці двухбаковыя сустрэчы паміж прадстаўнікамі беларускіх і летувіскіх неўрадавых арганізацыяў, каб наладзіць плённае двухбаковае супрацоўніцтва.

Па лініі ТБМ адбыліся сустрэчы з кіраўніцтвам адзінай у Летуве беларускамоўнай школы імя Ф. Скарыны і рэдакцыяй беларускамоўнай штомесячнай газеты "Рунь". Было вырашана ствараць суполкі ТБМ у вышэйзгаданых арганізацыях. Сябра ТБМ і рэдкалегіі "Наша слова" сп. Леакадзія Мілаш прапанавала стварыць у Вільні суполку ТБМ з ліку бацькоў дзяцей, што вучацца ў беларускамоўнай школе. У сваю чаргу кіраўніцтва ТБМ узяло на сябе абавязкі па дапамозе распаўсюджвання газеты "Рунь" на тэрыторыі Беларусі, а таксама рассылаць газету яе падпісчыкам на тэрыторыі Расіі і Украіны.

Для усіх зацікаўленых паведамляецца, што зараз газету віленскіх беларусаў "Рунь" можна атрымаць у сядзібе ТБМ у Менску, якая працуе штодзённа.

30 красавіка у Вільні адбылася сустрэча з кіраўніком калектыўнага сябра ТБМ у Летуве, Ю.Гілём. Яго арганізацыя налічвае больш чым 200 асобаў, якія жывуць на тэрыторыі Віленскага краю, мае дзве суполкі таксама на тэрыторыі Беларусі і афіцыйна зарэгістравана ўладамі Летувы.

Наладжаны кантакты з Вітаўтам Ясюкявічусам, прадстаўніком кнігарні ў Вільні дзе можна набыць кнігі на беларускай мове і дамоўлена аб магчымасці абмену літаратурай.

На плянарным паседжанні канферэнцыі прагучала інфармацыя аб дзейнасці ТБМ і былі распаўсюджаны апошнія нумары "Нашага слова".

*Алег Трусаў.*

# Хоць лета...

У нацыянальнай беларускай гімназіі № 4, што у Кунцаўшчыне адбылося святкаваньне Юр'ева дня і адкрыцця нацыянальнага цэнтра культуры. Сам цэнтр уяўляе сабой гасцёўню у якой зараз адкрыты вернісаж мастака Аляксандра Грыгор'ева на тэму "Палессе". У гасцёўне размешчана стылізаваная беларуская хатка, з печчу, побач стаіць журавель. На пачатку святкавання у гасцёўні перад вучнямі выступіў дзіцячы ансамбль гімназіі "Ластаўкі".

На прыступках перад прысутнымі, а народу было нямала выступілі госці- паэт Генадзь Бураўкін, бард Эдуард Акулін, кіраўнік ансамбля "Ліцвіны" Уладзімір Берберaў, пісьменнік Уладзімір Арлоў, мастак Дзягілеў, намеснік старшыні ТБМ сп. Лавіцкі.

У мастацкай частцы выступалі дзіцячы мастацкі гурт "Жалейка", мастацкі жаночы гурт з бярэзінскага р-на. У заключным слове дырэктар гімназіі Юрый Міхайлавіч Бандарэнка сказаў: "Дай бог, каб гэтая маленькая хатка стала вялікім беларускім домам".

Мастак Аляксандр Грыгор'еў распавёў аб планах працы нацыянальнага культурнага цэнтра, мяркуецца запрашаць для выступлення перад вучнямі цікавых людзей, ладзіць тэматычныя вечарына на тэмы гісторыі, фальклору, літаратуры. У гасцёўні ёсць відэа, плануецца наладзіць прагляд фільмаў у перакладзе на беларускую мову. Трэба адзначыць, што гэта цудоўнае мерапрыемства не магло б адбыцца без намаганняў такіх людзей як дырэктар гімназіі Юры Міхайлавіч Бандарэнка, кіраўніка суполкі ТБМ "Берагіня" Тамары Іванаўны Баранавай, загадчыцы культурнага цэнтра музэя Валянціны Іванаўны Быліны, а таксама мастака Аляксандра Грыгор'ева.

Пасля імпрэзы шаноўныя госці разышліся па класах, дзе выступілі перад вучнямі.

*Алесь Гурыновіч.*

# Яшчэ раз

***Архіў найноўшае гісторыі выдаў даведнік "Антысавецкія рухі ў Беларусі 1944-1956". Паколькі нядаўняя публікацыя нашай газеты пра антысавецкую падпольную групу ў Лідзе нарабіла шмат шуму і спадар Мясніковіч асабіста займаўся гэтай прблемай, то мы проста абавязаны надрукаваць урывак з гэтай кнігі, які тычыцца Ліды.***

ЛІДСКАЯ МАЛАДЗЁВАЯ ПАДПОЛЬНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ — была ўтвораная ў жніўні 1950. Была раскрытая органамі МГБ у траўні 1951.

Архіўныя крыніцы не ўтрымліваюць звестак пра назоў падпольнай маладзёвай арганізацыі ў Лідзе. У спецпаведамленні Управы аховы МГБ Брэст-Літоўскай чыгункі накіраваным у ЦК КП(б)Б, пазначана – "антысавецкая маладзёвая арганізацыя".

З пратаколаў допытаў арыштаваных удзельнікаў арганізацыі вынікае, што асноўнымі мэтамі арганізацыі былі звяржэнне Савецкай улады, усталяванне шматпартыйнасці, абвяшчэнне дэмакратычных свабодаў і г.д. Прадугледжвалася ўвядзенне прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасьці, передача калгаснай зямлі аднаасобнікам і стварэнне на гэтай падставе фермерскіх гаспадарак. Прадугледжваўся поўны выхад Беларусі з складу СССР і пабудова незалежнай і суверэннай дзяржавы.

Асноўная дзейнасць арганізацыі зводзілася да вуснай агітацыі пераважна сярод вучняў, студэнцкай моладзі – з мэтай пашы-рэння сваіх шэрагаў. Удзельнікі арга-нізацыі спрабавалі наладзіць кантакты з замежнымі эмігранцкімі арганіза-цыямі ды польскім нацыянальным падполлем.

Кіраўніком і лідэрам арганізацыі быў студэнт Гарадзенскай культурна-асветніцкай вучэльні Іван Салда-ценкаў, 1931 нараджэньня, расеец, мянушка "Пахмуры".

Сябрамі арганізацыі таксама былі:

Віктар Параваеў, 1931 нараджэння, расеец, токар вагоннага дэпо станцыі Ліда;

Фёдар Казлоў, 1932 нараджэньня, паляк, вучань 9 клясы школы № 12 Ліды;

Аркадзь Каштан,1931 нараджэння, беларус, бугалтар Гарадзенскага сельпо;

Аляксей Логвін, 1934 нараджэння, беларус, вучань 8 класа.

Вядомая таксама наступныя прозвішчы сяброў арганізацыі: Бычак, Васякін, Мазурок.

Пакуль нявыяўленыя звесткі пра друкаваныя матэрыялы арганізацыі. Не ўяўляецца пакуль магчымым устанавіць факт сувязі Лідскай падпольнай маладзёвай арганізацыі з іншымі падпольнымі маладзёвымі арганізацыямі заходніх абласцей Беларусі.

Крыніцы:
1.НА РБ. Ф.4,воп.62, спр.212.

Анатоль Вялікі.




# У Менску адчыніўся яшчэ адзін хрысціянскі храм

9 траўня 1999 года ў Менску па вул. Яна Райніса быў урачыста адкрыты і асвечаны новы мураваны храм Евангельскіх хрысціян – баптыстаў "Свято Евангелля", архітэктура якога нагадвае першыя Кальвінскія уборы ХУІ ст.

Храм мае вялікую малельную залу, вялікія хора і два балконы для вернікаў.

Будаўніцтва было распачата ў 1994 годзе. Увесь час не хапала грошай, вернікі эканомілі кожны цвік, нават адмовіліся ад вежавага крана. Усю сталярку яны зрабілі сваімі рукамі, нават шклонакеты. Адна сястра абшчыны ўвесь час за све грошы ўтрымлівала вартаўніка, другія аддалі на будаўніцтва свае залатыя завушніцы ці ланцужкі. Было шмат дабраахвотнікаў, што працавалі бясплатна. Вернікі з вёскі Вулька, што на Берасцейшчыне, увесь час дастаўлялі будаўнікам бясплатна падукты харчавання. Вялікую дапамогу аказалі баптысты Швецыі і Злучаных Штатаў Амерыкі. Прадстаўнікі гэтых абшчын прысутнічалі на сваце і выступалі з прамовамі. У іх гонар прагучалі псалмы на шведскай і англійскай мовах. Пастар царквы спадар Павел, не забыў звярнуцца да вернікаў і гасцей па-беларуску. У сваім казанні ён згадваў беларускую дзяржаву і беларускі народ, якім жадаў дабрабыту і пераадолення сёняшніх цяжкасцяў. Усе прысутныя былі ў захапленні ад цудоўных спеваў мясцовага хору. Такім чынам у Менску гасціннa адчыніў свае дзверы 24 храм. Хай часцей гучыць у ім роднае беларускае слова!

*Алег Трусаў.*

# Няўтульна Скарыну на радзіме!

Не так даўно з вуснаў прэзідэнта прагучалі словы аб перайменаванні галоўнай Менскай магістралі. Гэта лагічнае жаданне спадара Лукашэнкі ў рэчышчы ягонага варожага стаўлення да ўсяго нацыянальнага беларускага.

Прыгадаем словы нашага вядомага гісторыка М.Ермаловіча, які сказаў, што каб падначаліць народ сваёй уладзе ўсе ворагі імкнуліся найперш адбіць ці сказіць гістарычную памяць народа і апляваць яго мову, таму што мова і гісторыя асабліва красамоўныя сведчанні самабытнасці народа.

Скасаванне назвы праспекта Скарыны ў Менску – гэта плявок у твар, пасля якога прапануецца толькі выцерціся. Ні ў аднаго беларуса, ні ў аднаго выхаванага чалавека іншай нацыянальнасці не мог павярнуцца язык, каб выказаць падобнае блюзнерства, якое азначае найвялікшую абразу беларускага народа і ўвогуле цівілізаванага грамадства. Гэта, між іншым, самым яскравым чынам характарызуе глыбокую непавагу і агіду спадара Лукашэнкі да сапраўдных славянскіх каштоўнасцяў, а маніякальнaя ўладна-крамлёўскі сверб прымушае спакусіцца нават на святое.

Асветніца Ефрасіння за сваю дзейнасць абвешчана святой, асветнік Скарына, які ўводзіў у літаратурны ўжытак беларускую лексіку, праз паўтысячу гадоў становіцца непажаданым нацыянальным сімвалам для сучасных уладаў. Гэта той жа і такі ж вандалізм, што і разбурэнне помнікаў культуры і знішчэнне яе носьбітаў у мінулыя гады.

Спробы дыктаваць грамадству падобную мараль, ігнаруючы культурныя нацыянальныя каштоўнасці, будуць вартыя сумнавядомага Герастрата.

*В.Арлоў, Віцебск*

## Як быдзем скланяць Скарыну

Імя Скарыны стала настолькі важным у аўры беларускай нацыі, што кожная літара, напісаная не так выклікая рэзкую рэакцыю. Я атрымаў заўвагу ад Кастуся Акулы з Канады за тое, што газета "Наша слова" не так скланяе прозвішча "Скарына". Паўгода я думаў над гэтым. Думкі ішлі да параўнання словаў "Скарына" і "бацька". Давальны склон шматтысячагадовага слова "бацька" не выклікае сумніву. Таму не павінен выклікаць сумніву і давальны склон 500-гадовага прозвішча "Скрына". Далей мы мусім пагадзіцца з Кастусём Акулам і пісаць не "Скарыне", а "Скарыну".

*Станіслаў Суднік.*

# А.Пушкін. Беларуская культура. Сучаснасць.

*П.Барценеў: Что с вами?*
*А.Пушкін: Все читаю газеты.*
*П.Барценеў: Так что же?*
*А.Пушкін: Да разве вы не понимаете, что теперешния обстоятельства чуть ли не так важны, как в 1812 году?*



Вялікі славянскі паэт

Гэтая размова адносіцца да 1831 года, да часу паўстання на нашай зямлі, калі мы сумесна з другімі народамі рабілі чарговую спробу скінуць расейскае ярмо. Аляксандар Сяргеевіч, будучы сакратаром па ідэалогіі расейскага імперыялізму, вельмі перажываў, што мы, ліцьвіны, станем вольнымі гаспадарамі на сваёй зямельцы. Ідэлагічна ён абгрунтоўваў гэта спрэчкай славян, рыхтаваў аргументы захопнікам былым і цяперашнім:

*Что возмутило Вас? Волнения Литвы?*
*Оставьте: это спор славян между собою.*

У час паўстання *"Погодину явилась мысль написать о правах России на Литву и послать к Бенкендорфу"* шэфу жандармаў. Аляксандар Сяргеевіч *"пришёл от них в восторг..."* Праз пару год пасля паўстання нашы продкі пачалі арганізоўваць партызанскія атрады. У гэты час А.Пушкіну пачаў дапамагаць Ю.Лермантаў:

*Опять народные витии*
*За дело падшее Литвы*
*На славу гордую России*
*Опять шумя восстали вы...*
..............................
*Уж вас казнил магучим словом*
*Поэт, ...*
..............................
*Вам солнца божьего не видно*
*За солнцем русского царя...*
..............................
*Безумцы мелкие, вы правы*
*Мы чужды ложного стыда*
*Так нераздельны в деле славы*
*Народ и царь его всегда.*

А нам усе гаварылі: *"Народ и партия едины"*, аказваецца, ужо быў адзіны народ і цар, ну, а цяпер падсоўваюць – *"Россия и православные славяне едины"*. І вельмі надакучваюць нам – беларусам расейскія назойлівыя абдымкі, з якімі яны лезуць да нас без "ложного стыда".

Славянская дэмагогія патрэбна расейцам, каб грабіць нас, як у часы Пушкіна, так і цяпер. Апошнія пяць гадоў паказалі, што Расея не здольна пракарміць сябе: каб не Захад і Беларусь, то расейцы пайшлі б з торбамі па свету. І цяпер Расея хапаецца за Беларусь, як тапельнік за саломінку.

Сам жа Аляксандар Сяргеевіч вельмі сумняваўся ў славянскай сутнасці Расеі. Аб гэтым гавораць яго неафіцыйныя выказванні: *"...Я по горло сыт Москвой и её татарским убожеством"*, *"Вы издатель европейского журнала в азиатской Москве"*.

Ды і акружэнне А.Пушкіна было ў значнай ступені не славянскае. Мы ведаем, што яго сябрам быў Дзяніс Давыдаў, герой-партызан 1812 года, аб якім мы вельмі многа бачым перадач на тэлебачанні. Ён пасля адступлення Напалеона першы захапіў Горадню і аддаў кіраўніцтва горадам яўрэйскаму кагалу, а не ліцьвінам-беларусам ці палякам. У яго зусім не было славянскай салідарнасці, хоць у той жа царскай арміі ваявала супраць Напалеона, хоць і пад прымусам, вялікая колькасць беларусаў. І ён гэта не ўлічваў. Можна патлумачыць гэта тым, што ён выводзіў свой род ад хана Вялікай Арды Тангрыкулы Кайсыма і не быў ён славянінам.

Аляксандар Сяргеевіч ужо ў маладым узросце распрацоўваў ідэалогію захопнікаў. Для гэтага, будучы ў Малдавіі ў 1821 годзе, ён уступіў у масоны для большай значнасці сваёй асобы ў захопніцкіх колах імперыі.

24.09.1820 год А.Пушкін – Л.Пушкіну.

*"...Дикие черкесы напуганы; древняя дерзость их исчезает. Дороги становятся час от часу безопастнее, многочисленные конвои излишними. Должно надеяться, что эта завоёванная сторона, до сих пор не приносившая никакой существенной пользы России, скоро сблизит нас с персианами безопастною торговлею, не будет нам преградаю в будущих войнах – и, может быть, сбудется для нас химерический план Напалеона в рассуждении завоевания Индии. ...Хотя черкесы ныне довольно смирны, но нельзя на них положиться: в надежде большого выкупа – они готовы напасть на известного русского генерала. И там, где бедный офицер безопасно скачет на перекладных, там высокопревосходительный легко может попасться на аркан какого-нибудь чеченца"*.

Афганістан зусім блізка ад Індыі – чуць не дайшлі. Маральны бок справы так і не зрушыўся ні ў расейцаў, ні ў чачэнцаў. Сын юрыста Жырыноўскі, прэтэндуючы на ролю правадыра славян, усё марыць памыць боты ў Індыйскім акіяне. Чачэнцы ж навучыліся браць ужо ў палон чуць не сваіх братоў. "Солнца божего не видно" за сонцам расейскіх дэмакратаў з іх лозунгам "Долой ложный стыд!"

Афіцыйныя ўлады плануюць святкаваць 200 годдзе А.Пушкіна ў вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна. Аднадумцы і нашчадкі Аляксандра Сяргеевіча карміліся там у нашых сялян. Чаму мы, беларусы, павінны радавацца гэтаму? Цяперашнія ідыёлагі гавораць, што нашы сяляне вельмі радаваліся захопу беларусаў расейцамі. Прыблудным ідыёлагам пры дапамозе захопленных уладай газет, радыё, тэлебачання лягчэй цяперашніх сялян абдурыць. І некаторыя вераць.

1818 год. З журнала паседжанняў Камітэта Міністраў імперыі: *"...везде почти крестьяне изобличаются в упрямстве и в какой-то надежде свободы, отклоняющей их от работы владельцу; ...приезжают в губернский и уездные города для принесения жалоб, на что теряют своё последнее имущество, продают рабочий скот и из хороших хозяев приходят до нищеты"*. Гэта гаворыцца аб Гласевіцкім старостве Слонімскага ўезду.

1819 год. Рапарт гарадзенскаму губернатору "Об волнении..." сялян мяст. Дзівін Кобрынскага уезду. Тут, мусіць, ціснуў генералісімус Сувораў і яго нашчадкі. *"...при толиной упрямой зацепенелости и даже остервенелости крестьяне могли бы броситься на чиновников и обезоружить команду, из 300 человек состоящую..."*

*"...чтобы можно было без кровопролития привести в должное повиновение того местечка крестьян, отказавшихся жертвовать не только достоянием, но и жизнью своей, а все (же) не служить повинности, т.к. вышеупомянутые мест. Милейчицы, Городец, Мальчи, какой то Логишин в Минской губ. – вот до такой степени простирается возмущение"*.

Сяляне нашыя па сувораўску змагаліся з сувораўцамі. Але сілы былі не роўныя. І цяпер гэтае імперскае смецце ў выглядзе музееў, бюстаў, назваў калгасаў і інш. запаланіла Беларусь, і нашы сяляне ачумелі ад іх.

1823 год. З паведамлення Віцебскага суда аб "волнении" сялян мяст. Бешанковічы, Лепельскага уезду: *"...работ никаких служить до окончания дела о свободе своей не станут, говоря, что себе смерть сделают, и хотя их расстреляют, повешают, в рекруты сдадут, в Сибирь или Нерчинск сошлют, не будут до окончания дела пригонных работ отбывать, один от другого не отстанут"*.

1823 год. Рапарт губернатару "о подавлении волнений" сялян мяст. Мальча Пружанскага уезду: *"... всё общество мальчанских крестьян как мужеска, так и женска, всякого возраста, приступив к дому, занимаемого мною со сказанными чиновниками, в коем содержались в особом отделении орестованные из общества их начинщики..., разломав дверь, отбили от караульных часть помянутых арестованных, ..., сняли с них колодки и, провожая их вдоль по деревне, бросали на приступивших к ним полицейских служителей и прочих людей камнями и чем попало..."*

1829 год. Пісьмо беларускага генерал-губернатара: *"В январе месяце с.г. Белицкого повета помещицы кн. Любомирской крестьяне Косицкой Слободы сделали ослушание экономии в поставке рекрута, и некоторым из числа посыланных для взятия оного крестьянам причинили тяжёлые побои и даже увечья, а войта и сотского, так же побив и разорив дома их, выгнали из Слободы за то, что они, выполняя приказ экономии, не приклонились к совместному с ними возмущению"*.

І пасля задушэння паўстання 1831 года нашыя сяляне не супакоіліся.

Маёнтак Быхава Магілёўскай губерніі быў забраны ў князя Еўстафія Сапегі за ўдзел у паўстанні, але сяляне ўсёроўна змагаліся. Камісія *"призвала сперва по одному, а потом вдруг по 30 человек хозяев, считавшихся лучшими, прочитывала им предписания губернатора и узаконения, о неповинующихся изданные, делала им убеждения наречием, для них понятным..."* (Як бачыце, акупанты, каб смачна есці з працы беларускіх сялян, нават вывучылі нашу мову!)

*"Когда комиссия советовала поговорить им с духовными отцами, то крестьяне и тут ответствовали, что их духовные отцы – враги и добра им не желают"*. Разумныя былі нашы продкі, нават сяляне. Ненавідзелі акупантаў. Але "арда" высекла за два стагоддзі лепшых. Тых жа беларускіх сялян прыгаварылі спачатку да смерці, за тое, што яны змагаліся за культуру свабоды і не ўспрымалі культуру Аляксандра Сяргеевіча, які лічыў, што *"без политической свободы жить очень можно"*.

На такім сялянскім фоне часоў А.Пушкіна святкаванне ў вёсцы Цялуша выглядае, як знявага ліцьвінаў-беларусаў. Быхаўскія сяляне ўжо тады зразумелі сутнасць расейскай праваслаўнай царквы – што гэта *"ворагі і дабра нам не жадаюць"*. Характарызуючы становішча нашай нацыянальнай царквы у часы А.Пушкіна, Іосіф, мітрапаліт літоўскі, пісаў у 1827 годзе: *"Униатское духовенство, во время Польши несколько римскому враждебное, ныне взаимностью польз, почти с оным соединилось"*. Агульная бяда прымушала беларусаў пераходіць лепш у каталіцтва, чым у правячае праваслаўе. Потым была забарона уніяцкай царквы, магчыма, па прапанове А.Пушкіна. Фактычна пушкінымі быў разбураны наш нацыянальны ўніяцкі пласт культуры. І цяпер расейцы прысылаюць нам сваіў бамжоў у якасці "духовных отцов".

Літва-Беларусь лічылася краінай замкаў. Замкі адлюстроўвалі нашу будаўнічую і ваенную гісторыю і культуру.

Навагрудскі замак пачалі разбураць у 1802 годзе. У 1828 годзе прадоўжылі, бо заставаліся яшчэ *"две башни довольно... крепкие"*. Смалянскі замак разбурыў расейскі сенатар Сямёнаў, прадаўшы яго на цэглу.

Пасля паўстання 1831 года пачалося масавае разбурэнне і разграбленне нашых культурных каштоўнасцяў. Прыкладам можа служыць Ружанскі палац Сапегаў. Расейскія рабаўнікі укралі карціны, бібліятэку, разбурылі тэатр і сам палац. Рэшткі яго стаяць цяпер як помнік А.Пушкіну і пушкіным. Толькі рысункі Н.Орды і І.Пешкі служаць напамінам, якія мы былі і што з намі зрабілі пушкіны.

Цікавую думку выказаў даследчык нашай геральдыкі Анатоль Цітоў: "Варта адзначыць, што большасць гербаў Усходняй Беларусі (галоўным чынам Падняпроў'я) незалежна ад іхняй сімволікі аб'ядноўваюцца ў асобны кушч – іхняя семантыка зводзіцца да ідэі аховы, абароны і перамогі хрысціянскіх каштоўнасцяў...

Як здаецца, тут мы маем тагачасную геральдычную фіксацыю ўспрыняцця нашага ўсходняга суседа як неэўрапейскай і нават нехрысціянскай краіны, што, дарэчы, знайшло пэўны водгук і на картаграфічных помніках XVI-XVIII ст.ст., дзе гэтыя тэрыторыі пазначаліся – Масковія альбо (alias)Татарыя" (13)

Нееўрапейскасць і нехрысціянскасць цяпер "дэмакратычнай" Расеі пацвярджаецца татара-мангольскай палітычнай культурай у адносінах да нас – навязванне нам рэжыму Лукашэнкі і спробай зрабіць аншлюс нашай Бацькаўшчыны. Усе еўрапейскія дзяржавы падтрымліваюць нашу Канстытуцыю 1994 года і законныя галіны ўлады, Расея і Казахстан – не.



Ружанскі палац. Сучасны выгляд.



Ружанскі палац. Праект фасаду.



Ружанскі палац паводле Н.Орды. 1863 г.

Юбілей А.Пушкіна і задуманы ў Беларусі, каб падтрымаць гэтае "татарское убожество" у палітыцы – канчаткова знішчыць нашу мову, культуру і нас саміх, як народ. Пагэтаму цяперашнія абставіны для нас важныя, як у 1812, 1831 годах, бо татара-мангольская ідэя зноў праяўляе актыўнасць у нашага ўсходняга суседа.

*Аркадзь Бліноўскі*

# СПОВЕДЗЬ ЗАХОДНІЦЫ

**(Інтэрвію з адступленнямі і дадаткам, узятае вучнем 7 "Г" класа школы № 8 г. Ліды Сазанаўцом Хведарам у Верабей Надзеі Максімаўны і дасланае на конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965", арганізаваны Архівам найноўшай гісторыі)**

**Х.С.:** ***"Надзея Максімаўна, распавядзіце, калі ласка, трошкі пра сябе: дзе нарадзілася, якой была Ваша сям'я".***

**Н.В.:** " Нарадзілася я ў вёсцы Ваўкавічы, недалёка ад Наваградка. Да 39-га года гаспадарка ў маіх бацькоў была звычайная сялянская: хата, хлеў, свінар, малатарня, трохі зямлі. У нас у сям'і было шасцёра дзяцей: тры хлопцы і тры дзяўчынкі. Я была наймалодшая, "паскробышак", як кажуць. Матэрыяльна жылі нядрэнна, мелі дзве каровы, авечак. Даводзілася іх улетку пасвіць, калі канчалася школа. Уставала раненька, а спаць гэтак хацелася! Хадзіла ў паўшэхную школу, чытала кніжкі, часопісы старэйшых братоў, а яны чыталі тоўстыя кніжкі: творы Адама Міцкевіча, Сянкевіча. Мне на ўсё жыццё засталіся ў памяці словы аднаго вершыка: "Шайтан душы апануе і вышэсцю зруйнуе і бэндзе касцёлы руйноваць і ксёндзув мордоваць". Я тады паняцця не мела, што азначае слова "мордоваць".

**Адступленне № 1: Да 1939-га году Наваградчына была акупавана Польшчай. Праваслаўнае насельніцтва павінна было наведваць польскія школы.**

**Х.С.:** ***"Надзея Максімаўна, я ведаю, што Вашай сям'і і, наогул, жыхарам той вёскі, у якой вы жылі ў дзяцінстве, давялося надзвычай шмат перажыць і падчас савецкай акупацыі, і падчас самой вайны. Тая гісторыя заслугоўвае асобнай ўвагі, але сёння мне б хацелася, каб Вы распавялі пра тое, што з Вамі адбывалася пасля вайны".***

**Н.В.** " Зусім не закранаць час вайны ды час савецкай акупацыі перад вайной усё ж, напэўна, не давядзецца. Надта ж ужо нашае пасляваеннае жыццё цесна звязана з тым, ранейшым.

Мой старэйшы брат Валодзя быў прызваны ў польскае войска яшчэ да 38-га года, пасля, як у 40-вым годзе ў Берасці прайшоў парад пераможцаў, у якім, як вядома, удзельнічалі гітлераўскія войскі і Чырвоная Армія, такіх, як мой брат, простых жаўнераў, павыпраўлялі дахаты, а польскіх афіцэраў чакала Катынь. За савецкім часам Валодзя вучыўся ў Наваградку ў педвучэльні. А тут немец ужо падыходзіць. Мае браты Валодзя ды Іван пайшлі ваяваць у армію імя Тадэвуша Касцюшкі. Справа ў тым, што набралі нашых хлопцаў ды павезлі ў Стоўбцы, там быў зборны пункт. Кажуць: хто каталік, няхай на адзін бок становіцца, а хто праваслаўны – той на іншы. Мае браты былі праваслаўныя, але сталі на той бок, дзе былі каталікі. Якая розніца, на якім баку ваяваць. Забягаючы наперад, скажу, што яны тады зрабілі правільны выбар".

**Х.С.:** ***"Чаму Вы лічыце, што яны зрабілі правільны выбар?"***

**Н.В.:** " Пасля вайны, як польскія жаўнеры, яны засталіся ў Польшчы. Валодзя атрымаў вышэйшую адукацыю і стаў там слынным інжынерам. Быў вельмі адукаваным і паважаным чалавекам. Будаваў масты, аэрадромы, розныя афіцыйныя будынкі. Пасля, калі рэпрасавалі майго брата Мікалая, Валодзя шмат зрабіў дзеля таго, каб выратаваць ягоную сям'ю. Толькі пасля таго, як ён напісаў Мазураву, сям'ю майго брата Мікалая дазволілі вывезці з Казахстана ў Польшчу. Гэта быў ужо канец 50-ых гадоў".

**Х.С.:** ***"Ваш брат Мікалай быў у Казахстане? Як ён туды патрапіў?"***

**Н.В.** " Гэта асобная і вельмі трагічная гісторыя ў нашай сям'і. Мой брат Мікалай найбольш пацярпеў ад савецкай улады. Але аб усім па парадку.

У 48-ым годзе ў нашай вёсцы пачалася калектывізацыя. Праходзіла яна вельмі цяжка. У калгас амаль што ніхто не хацеў ісці, бо ўжо ведалі: што гэта такое. Забяруць усё, што нажывалася гадамі і не адным пакаленнем. Ведалі ўжо, што ўсё гэта вельмі хутка прападзе ў тым калгасе. Мае бацькі памерлі, мама ў сорак пятым годзе (даведалася толькі, што ўсе яе сыны засталіся жывымі пасля вайны), а бацька – у сорак шостым. Гаспадарка засталася старэйшаму брату Мікалаю. Ён у калгас ісці не хацеў. І вось 18 красавіка 52-га года прыйшлі яго забіраць за тое, што не падпарадкоўваўся ўладам. Гэта быў ужо трэці хапун у нашай вёсцы. Першы быў адразу пасля таго, як прыйшлі саветы – у 39-м – 40-ым гадах, другі – перад самай вайною. Тады людзей не паспелі выправіць у высылку, бо пачалася вайна, бамбаванне цягнікоў, і людзі проста паўцякалі дахаты. І вось гэты трэці хапун. Гэта была чырвоная субота перад Вялікаднём. Я тады ўжо працавала медыцынскаю сястрою ў Лідзе. Прыехала да брата на свята. Прыйшлі ноччу, схапілі брата, ягоную жонку, траіх малых дзяцей (аднаму было два гадкі, другому чатыры, а трэцяму – шэсць) і павезлі ў Казахстан. Я змагла збегчы. Бегла басанож ажно да Навагрудка, там у мяне жыла цётка. На другі дзень паехала на працу ў Ліду. Вельмі баялася, што мяне выдадуць, мая начальніца пра ўсё ведала, але не выдала.

Брат мой доўгі час жыў у Казахстане, зведаў усе здзекі. Яны там вельмі галадалі. На нашай сядзібе на сённяшні дзень застаўся толькі сад. Ад хаты ды іншых былых пабудоў не засталося анічога. Нашымі былымі суседзямі ды іншымі аднавяскоўцамі было раскрадзена ўсё, што было магчыма і намагчыма. Застаўся сад, кажуць, кожны год родзіць. Раскрадзена была не толькі нашая сядзіба ды сядзібы іншых гэтакіх жа гаротнікаў. Некалі ў нашай вёсцы была царква. Ужо пры Брэжневе яе разбурылі. Мае аднавяскоўцы пакралі ўсё ад яе, нават камяні ад фундаменту. Праўда, той, хто краў, шчасця не зведаў. З кожным здаралася нешта жудаснае: каго забілі, хто памёр без пары ад хваробы. Старыя людзі кажуць, што той, хто разбурае храмы, альбо чыю -небудзь магілу, абавязкова будзе пакараны. Калі не ён, дык ягоныя нашчадкі.

**Адступленне. № 2: На Заходняй Беларусі калектывізацыя сапраўды ішла вельмі цяжка. Цяжка для савецкай улады. Зверху мясцоваму начальству давалі планы, колькі вёсак і ў які час патрэбна было пераварыць у калгасы, а "несвядомыя" заходнікі на ўгаворы і нават пагрозы не надта паддаваліся. Многія, асабліва маладыя мужчыны, траплялі ў "лясныя браты", рабілі ўсё, каб ўратаваць сваю зямлю і маёмасць сваіх сем'яў. Першымі калгаснікамі, у асноўным, станавіліся тыя, у каго была занядбалая гаспадарка.**

**Мая прабабуля Ганна (вёска Ачукевічы Наваградскага раёна) некалькі гадоў запар адмаўлялася ісці ў калгас. Напачатку яна проста адмаўлялася. Тыя шэсць гектараў зямлі, якія ў яе былі ў собскасці, забралі і замянілі кавалкам зямлі, значна горшай і больш далёкай ад сядзібы. Гэта не дапамагло. Прабабуля ўсё роўна ў калгас не пайшла, упарта ездзіла на той далёкі кавалак. Тады яе завалілі падаткамі. Яна змагла ўсё выплаціць. Пачалі пагражаць высылкай на Салаўкі. Не выслалі толькі таму, што яна была ўдава, мела пяцёх непаўналетніх дзяцей і за яе папрасіў адзін сельсаветаўскі службоўца, які некалі сябраваў ў маім прадзядулем. Зрабіў пратэкцыю, так бы мовіць. Калі б не ён, яшчэ невядома, у якім месцы нарадзілася б мая мама, унучка бабы Ганны. Хутчэй за ўсё, за межамі Беларусі. Падаткі ўсё павялічвалі, выплаціць іх ужо не было аніякай магчымасці, а тут яшчэ мая бабуля Люба, дачка бабулі Ганны, сабралася вучыцца ў Маладэчне ў настаўніцкім інстытуце. Калі б бабуля Ганна не пайшла ў калгас, дачцэ яе, Любе, не далі б пашпарту. Са слязамі ў калгас прыйшлося пайсці. Дарэчы, падчас вайны бабуля Ганна тры разы змагла зноў адбудоўваць сваю спаленую хату. Апошні, чацвёрты раз, яна змагла купіць толькі невялічкую развалюху з земляной падлогай. У гэтай хаціцы яна жыла разам з адной са сваіх дачок ажно да сямідзесятых гадоў, пакуль тая не змагла сабраць грошай ды купіла больш-менш прыстойную будыніну. У калгасе тады працавалі не за грошы, а за палачкі. Я, дарэчы, не змог зразумець, што ткое "палачкі" і як за іх можна жыць.**

**На гумнішчы маёй другой прабабулі Зосі (в. Лукашына Іўеўскага раёну) некалі стаяў вялізны свіран. Яго яшчэ памятае мая мама. Каб пабудаваць гэты свіран, мой прадзядуля грошы збіраў некалькі гадоў. Калгас забраў свіран пад сваю гаспадарку. Але карыстацца ім не стаў, бо туды было цяжка заязджаць на трактары. Некалькі дзесяткаў гадоў свіран стаяў, зачынены на вельзарны замок. Ні мой прадзядуля, ні мой дзядуля не маглі карыстацца "калгаснай" собскасцю. І сам не гам, і каму не дам! Недзе на пачатку сямідзесятых, калі мая мама ўжо хадзіла ў школу, свіран разабралі на бярвенні і некуды звезлі.**

**Х.С.:** ***" Шаноўная Надзея Максімаўна, Вы казалі, што Вашыя браты Валодзя і Іван пасля вайны патрапілі ў Польшчу. Пра Валодзю Вы ўжо казалі, а як склалася жыццё ў Івана?"***

**Н.В.:** " Іван падчас вайны быў вельмі смелым ваяром. Ён меў надта добры зрок, таму яго прызначылі наводчыкам. Збіваў нямецкія самалёты. Напэўна, Бог яго бярог, бо ўся ягоная шынель была прастраляная наскрозь, а ён нават параненым не быў. Іван быў узнагароджаны многімі польскімі ўзнагародамі, у тым ліку вышэйшай ўзнагародай – Крыжам валечным. Пасля вайны ён таксама застаўся ў Польшчы, стаў прафесійным вайскоўцам. Даслужыўся да звання маёра. Меў ад польскіх уладаў шмат пашаны і добрую пенсію (1000 даляраў). Калі памёр, хавалі яго з вайсковай пашанай."

**Х.С.:** ***" Як Вы думаеце, чаму Вашыя браты ўсё ж не вярнуліся на Радзіму?"***

**Н.В.:** " Чаму мае браты не вярнуліся на Радзіму? А што ім тутака было рабіць? Сядзець у лагеры ці ў турме? Такіх, як яны, лічылі за здраднікаў".

**Х.С.:** ***" А Вы, што адбывалася з Вамі пасля вайны?"***

**Н.В.:** " Я засталася тут, на Радзіме. Скончыла медычную навучальню і пачала працаваць у Лідзе ў шпіталі. На той час я была даволі адукаванай дзяўчынай, бо нават падчас вайны вучобы не кідала. Спачатку вучылася ў нашай вёсцы ў беларускай школе, але пасля жыць у нашых Ваўкавічах стала вельмі небяспечна, актывізаваліся партызаны як савецкія, гэтак і беларускія. Мае бацькі вырашылі выправіць мяне ў Навагрудак у гімназію. Казалі: хоць ты, дзіцятка, застанешся жывою, бо браты былі на фронце тады, ці вернуцца яны дахаты ніхто не ведаў. Выкладчыкамі ў нас былі беларусы. Напрыклад, матэматыку выкладаў Платон Пляскач, беларускую мову і гісторыю Беларусі Анішчык. Дырэктарам гімназіі быў Скрабец, ён сядзеў пасля ў савецкім канцлагеры. Я была тады яшчэ малая і да палітыкі не спрычынялася, а вось старэйшых, тых, хто быў сябрам Беларускага Саюзу Моладзі, у сорак сёмым годзе вылоўлівалі і саджалі па турмах. Савецкі генацыд зведалі нават тыя, хто быў, гэтак як я, яшчэ малы і толькі вучыўся. Я ведаю, што такое - турэмная камера. Ужо пасля вайны мяне некалькі дзён трымалі ў камеры, што хацелі ад мяне даведацца, не ведаю і сёння. Распытвалі пра братоў, што засталіся ў Польшчы, пра выкладчыкаў у школе ды гімназіі, пра старэйшых вучняў. Я не хацела і не магла нічога ім распавесці і ім прыйшлося мяне выпусціць. Але што такое турэмная "параша" і злядзенелая падлога ў камеры, я ведаю. Памятаю, ужо ногі ад холаду пачалі заходзіцца, як вартавы адчыніў дзверы ды кажа: "Выйдзі, дзяўчынка, на двор, трошкі сагрэйся". На дварэ тыды было цяплей, чым у той камеры.

Памятаю, скончыла навучальню, паехала на працу ў Ліду. Жыццё гаротнае, невясёлае, беднае. З фанеры валіскам зробленым, зышла з аўтобуснага прыпынку, кінулася ісці да калежанкі, якая жыла на Чырвонаармейскай вуліцы. Нас восем чалавек тады ўладкавалася да яе на кватэру. Пражылі мы ў яе ў гумне цэлы месяц. Але насталі халады, у гумне начаваць больш было немагчыма, сталі мы перабірацца на новае жытло. Мяне ўзяла да сябе настаўніца (яе прозвішча Ставер). Яна жыла на вуліцы Ленінскай. Алена Рыгораўна стала мне другой маці. Гаспадар зрабіў дзеля мяне драўляны насціл, наверх мяшок паклалі замест матрасу, а замест коўдры ў мяне быў трафейны салдацкі шынель. Такая была мая пасцель. Зімой было вельмі холадна, за ноч на падваконне гурбы снегу намятала. Я чакала раніцы, каб хутчэй пабегчы ў шпіталь і там хоць трошкі сагрэцца. На першы свой заробак я купіла сабе коўдру. Пераапранацца не было ў што. Скіну з сябе ўсё, перамыю, высушу ды зноў апрану. Жыццё ў галадзе. Бульба, вада ды хлеб. І на сняданак, і на абед, і на вячэру. Заробак быў 375 рублёў, з іх амаль палову забіралі на розныя падаткі ды пазыкі. Быў такі займ, яго называлі "быковым падаткам", за кватэру плаціла пяць рублёў. Заставалася ў лепшым выпадку недзе каля 200 рублёў.

На працы пагарда, бо некаторыя мае супрацоўніцы лічылі мяне "ворагам народа". Некаторыя нават у твар мне казалі, што месца мне ў Сібіры, я лес валіць павінна, а не людзей лячыць. Няхай Бог даруе ім тую злосць. Я іх не вінавачу, савецкая прапаганда галовы ім патлуміла.

Нагаравалася я, пакуль замуж не выйшла ды сваёй сям'ёй не зажыла. Але і тады не нашмат лягчэй стала. Як да быдла да нас дзяржава адносілася. Патрэбна было толькі працаваць і працаваць. Сям'я, дзеці павінны былі быць недзе на апошнім месцы. Не дай, Бода, каб нешта здарылася!

Нейк раніцай мой муж ачуў сябе вельмі блага, страціў прытомнасць. А мне на працу трэба бегчы! Не магла ж кінуць роднага мне чалавека паміраць! Пакуль знайшла машыну, пакуль паклала яго ў шпіталь, дарэчы ў той самы, дзе сама працавала, прайшоў нейкі час. Тое, што ў мяне надарылася бяда, бачыў увесь шпіталь, але на наступны дзень на мяне ўжо вісеў загад: за спазненне на працу мне зрабілі вымову. Але гэта яшчэ не ўсё, не ўсе мае пакуты. З аднаго боку муж пасля аперацыі ледзь жывы, а з іншага – пачалося абмеркаванне: можа мяне за тое спазненне патрэбна з працы звольніць? Гэта быў канец пяцідзесятых, спазненне ці прагул лічыўся тады вельмі цяжкім злачынствам. У турму можна было нават патрапіць. Мяне б тады ўсё ж не звольнілі. Выпадкова знайшоўся адзін хлопец з нашай вёскі, які займаў тады добрую пасаду. Ён папрасіў, каб мне даравалі і з працы не звальнялі."

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*




Станіслаў Суднік

# Самая старая казка беларусаў

**17-18 красавіка ў Горадні прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя “Беларуская нацыянальная ідэя. Але паколькі 17 красавіка прайходзіў 6-ты з’езд ТБМ я змог узяць удзел толькі ўдругім дні працы канферэнцыі, дзе мне далі ажно пяць хвілін часу. Разам з тым і сыходзячы з тога, што нацыянальная ідэя - субстанцыя даволі агульная і мае шэраг складовых частак, такіх, як прыкладам: Ідэя нацыянальнай мовы; Ідэя нацыянальнай дзяржавы; Ідэя нацыянальнай культуры; Ідэя нацыянальнай гісторыі; Ідэя нацыянальнай эканомікі; Ідэя нацыянальнай царквы; Ідэя нацыянальнай філасофіі; Ідэя нацыянальнага менталітэту; Ідэя беларускага нацыяналізму і г.д. і г.д., я хацеў закрануць на канферэнцыі краёчак ідэі нацыянальнай гісторыі, але зрабіць гэта за пяць хвілін было немагчыма. Таму, лічачы, што і не сказанае трэба чуць, я друкую свой даклад пад назвай “Самая старая казка беларусаў”.**

**Кожны народ, які хоць трохі паважае сябе, мае паданне, легенду ці казку пра ўласнае паходжанне, пра паходжанне назвы сваёй краіны ці сваёй сталіцы. Ад гэтай легенды пачынае народ пісаць сваю гісторыю.**

**Інда-арыі пішуць сваю гісторыю ад бога Вішну і чалавека Мана. Яўрэі ад бога Яхвэ і чалавека Адама, грэкі ад Кронаса, Зеўса, іншых багоў, тытанаў, паўбагоў-паўлюдзей герояў. Рымляне пачынаюць гісторыю Рыма ад Рома і Ромула, а кіяўляне – гісторыю Кіева ад Кія, Шчалака і Лыбедзі, беларус Юзаф Крашэўскі напісаў палякам “Старую казку” (Stara basn) і зараз яны ведаюць адкуль узяліся. Расейцы не паленаваліся і некалькі гадоў рэзалі на драўляных дошчачках “Велесаву кнігу”, і г.д. Мелі свае легенды і паданні і беларусы, бо былі народам. Сёння мы звычайна пачынаем нашую гісторыю ўжо не з 1917 года а ад Рагвалода і Рагнеды, але яшчэ Тодар Нарбут фіксуе ў басейне Прыпяці вусныя паданні пра прыход нашых прашчураў на гэтую зямлю з Індыі. Індыйская тэма загучала ў шматлікіх навукова-папулярных і мастацкіх творах. Згадаем “Падарожжа ў краіну арыяў” і “Арыйскую аснову беларускай мовы” Станіслава Судніка, “Залатую жрыцу Ашвінаў” Вольгі Іпатавай і інш. Таму мы проста абавязаны расказаць людзям гэтую казку, каб беларусы ведалі, адкуль ёсць яны і пайшлі.**

Калісьці даўным даўно, калі моры былі значна глыбейшыя, горы значна вышэйшыя, травы значна зеланейшыя, а неба чысцейшае і дабрэйшае жылі нашы далёкія-далёкія прашчуры каля дзвюх высокіх гораў, якія мелі назву Хара і Меру. Горы з вяршынямі Хара і Меру былі мяжою паміж цёплымі краямі і халоднымі, цягнуліся з усходу сонца на захад, былі моцна зарослыя лесам. У лясах было шмат звяроў і паўднёвых і паўночных, а ў зямлі шмат розных багаццяў. Праз шмат тысячагоддзяў гісторыкі назавуць гэтыя горы Рыпейскімі або Гіпербарэйскімі, але ў той час нашы прашчуры называлі іх проста гарамі і імёны далі толькі дзвюм вяршыням: Хара і Меру.

Жылі нашы прашчуры родамі ды плямёнамі, размаўлялі на мностве блізкіх паміж сабою моваў. Мелі добрыя прылады працы з крэменю ды іншых каменняў, а таксама з косці ды дрэва. Палявалі на дзікіх жывёлаў, лавілі рыбу, збіралі грыбы ды ягады.

Шчаслівы быў час, шчаслівы быў край.

Доўга ці не так ішло, але сышла не адна тысяча гадоў пакуль пачало тут усё мяняцца. Падзьмулі моцныя паўночныя вятры, папоўз з поўначы ледавік, моцнымі сталі маразы, доўгімі зімы і халодным лета. Павымярзалі цёплалюбівыя расліны на іх месцы пайшлі расці іншыя, сышлі на поўдзень звяры, прыйшлі з поўначы іншыя. За звярамі пацягнуліся плямёны паўночных людзей. І нашыя прашчуры зняліся са сваіх мейсцаў. Яны пайшлі за сваімі дрэвамі і сваімі травамі, за сваімі звярамі. Яны пакінулі радзіму каля гор Хара і Меру і рушылі на поўдзень. Не адзін год і не адно стагоддзе трываў гэты рух. Па дарозе міналі яны горы і рэкі, лясы і стэпы, аж пакуль не ўперліся ў мора. Ніхто не кіраваў рухам плямёнаў. Ні адно племя не ўзгадняла з іншым ні свой шлях, ні свой маршрут. Таму дайшоўшы да мора плямёны раздзяліліся. Адна частка большая пачала перабірацца цераз вузкі марскі праліў на супрацьлеглы бераг, на абшары тэрыторыі, якую пазней назавуць Малой Азіей, другая частка, меншая адвярнула ад мора, пайшла далей па гарах і цяснінах і выйшла ў цудоўную краіну, якую пазней назавуць Балканамі, Пелапанесам ці Грэцыяй. Ззаду іх засталіся горы, з усіх бакоў было мора. Рух іх прыпыніўся, ішло толькі засяленне шматлікіх выспаў.

Першая ж частка вырвалася на азіяцкія прасторы. Клімат прахладны вільготны спрыяў ім і не спрыяў тым людзям, якія жылі тут раней. Хутка вялікія абшары Малой Азіі былі заселены паўночнымі людзьмі. Яны навучыліся здабываць і апрацоўваць медзь, рабіць бронзавую зброю, засвоілі жывёлагадоўлю, земляробства, прыручылі каня. Яны пачалі будаваць гарады. Горад складаўся з хатаў. Самы першы, самы большы свой горад яны так і назвалі Хатус або Хатусас, што абазначае проста “хаты”. І народ, які жыў у Хатусе ў хатах называлі хатамі. Людзі іншых гарадоў называліся хетамі, хоць і былі адной крыві з хатамі. І якраз хецкія гарады набралі большую сілу і адгэтуль перш за ўсё з горада Кусара (Хутара) пачаўся рух за аб’яднанне часткі паўночных народаў у адно, у дзяржаву. Пачаў гэтую справу правадыр Кусара па імені Пітхана. Ён нечакана напаў на Несу (Нашу) і захапіў яе, але не ператварыў жыхароў Несы ў рабоў і не перабіў іх, а назваў і “бацькамі і мацяркамі”, бо былі яны адной крыві. Пераемнік яго Аніта пачаў далучэнне іншых гарадоў і ўрэшце-рэшт далучыў Хатус.

Наступныя цары Табарна, Хатусіл I (Хатусіла I), Мурсіл I (Мурсіла I) прадоўжылі гэтую справу. Цікава звярнуць увагу на хетскія імёны. Мы сёння маем будову славянскіх імёнаў, як правіла двухкарэнную і сэнсавую. Пры розных і шматлікіх карэннях першай часткі славянскага імені, варыянтаў другой часткі было не шмат. Найбольш распаўсюджаннымі канцоўкамі славянскіх імёнаў былі *– слаў, — мір, — валод, — міл, — полк, — свет* і некаторыя іншыя. У імя закладваецца пажаданне – лёс чалавека.

**Стань слаўным – Станіслаў**

**Будзь слаўным – Будслаў**

**Валодай з мірам – Уладзімір**

**Усім валодай – Усевалад**

**Людзям мілая – Людміла**

**Слаўся на ўвесь свет – Святаслаў**

**Будзь усім слаўны – Усяслаў (Вазьмі ўсю славу)**

Вядома, што імя “Слаўся на ўвесь свет” маглі даць не кожнаму, а найперш сыну правадыра (князя, цара). Дзецям простых людзей у імёны ўкладвалі працейшы сэнс.

У хетаў структура імёнаў была аналагічная. Але цывілізацыя была яшчэ даволі прымітыўная. Субстанцыя “слава” значыла мала. Затое шмат значыма субстанцыя “сіла”. Таму ў хетаў і пашырыліся імёны на сіл (сіла). Хатасіл - сіла хатаў хетаў, Хатуса, проста сіла хаты. Тады Мурасіл – сіла мура (мураванай хаты, мураванага будынка). Так нашыя прашчуры ўжо ўмелі мураваць і было гэта больш чым за дзве тысячы гадоў да нашай эры. Недзе ў 1800 годзе да нашай эры хеты зрабілі вялікае адкрыццё. Яна навучыліся здабываць жалеза і трыста гадоў трымалі манаполію на яго. Трыста гадоў хеты развівалі металургію жалеза, рабілі жалезную зброю, жалезныя прылады працы. У 1500 годзе хеты заявілі пра сябе, як пра магутнейшую краіну свету. Яны ўзялі Вавілон, разграмілі Егіпет. Не бяруся казаць, хто вынайшаў кола, але хеты ў поўнай меры скарысталі яго. Хетскія калясніцы зрабілі рэвалюцыю ў вайсковай справе. Яны таптталі і рэзалі егіпецкую пяхоту, як траву. Залога (экіпаж) хецкай калясніцы складаўся з трох чалавек: вазніцы, лучніка і тарчаносца, які прыкрываў лучніка. Хеты вынайшлі і баявыя косы.

Але далёка не ўсе арыйскія плямёны былі пад рукой хецкага цара. Мы можам ужо пачаць ужываць тэрмін арыйскія. Што значыць арый? Можа яно ад слова “араць”. Некаторыя даследчыкі называлі арыяў “пастухамі”. На санскрыце “арый” абазначае “пан”, “гаспадар”, але добры гаспадар заўсёды араў.

Дык вось у 15 ст. да н.э. арыйскія калясніцы з’явіліся ў Паўночнай Індыі. Гэта адзін да аднаго хетскія калясніцы з той толькі розніцай, што залога іх складаецца не з трох, а з двух чалавек, вазніцы і лучніка. Тарчаносца няма, бо ён не патрэбен. Тубыльскія народы, або не ведаюць лука, або маюць у лепшым выпадку касцяныя наканечнікі. Для арыяў у жалезных даспехах гэтыя стрэлы небяспекі не ўяўляюць.

У пачатку 13 ст. да н.э. арыйскія (дарыйскія) плямёны зноў перапраўляюцца ў Еўропу і пакараюць Грэцыю. І тут вырашальнай стала жалезная зброя прычым на столькі, што само жалеза ахейцы назвалі “сідарас”, што абазначае “арыйскі” “разам з дарыямі”. Дарыйцы будучы не шматлікімі не асімілявалі ахейцаў, хутчэй самі ў значнай ступені асіміляваліся. Узнікла дарыйска-ахейскае койнэ, на якім Гамер і напісаў свае паэмы. Чыста ахейская мова нам мала вядомая.

Жалезныя хвалі арыяў пракаціліся па ўсёй Азіі. Яны ішлі адна за другой. У Індыі арыі дайшлі да Цэйлона (Ланкі). Але сама арыйская краіна “Арыяварта”, або “Арыя-Дэша” была ўтворана на поўначы Індыі. Менавіта ў гэтай краіне мы ўпершы раз бачым плямёны з беларускімі і славянскімі імёнамі. Гэта “крыві”, “гуда”, “шрава”, “дравіда” і інш.

Трэба меркаваць, што прабылі гэтыя плямёны ў Індыі значны час. У прыватнасці шравы (славяне) мелі тут вялікі і багаты горад Шравасці. Крыві (крывічы), чыё імя абазначае чалавек-воблака, чалавек-крыніца, мяшок з вадой жылі ў баку пустыні Тар і мусілі насіць з сабой воду. І назва “крывіч” абазначае “крыніца”. Усе іншыя версіі паходжання гэтага слова маюць права на існаванне, але рэальна “крывіч” – гэта “крыніца”. Гуда (гуды, дрыгавічы) жылі ў даліне Ганга і ўжо тады вырошчвалі цукровы трыснёг і здабывалі цукар. Дравіды (драўляне жылі ва ўсходніх лясах.

Пасля арыйскай хвалі на Індыю прайшла хваля на Сярэднюю Азію. Скіфы, мідзяне, іранцы. Скіфскае жалеза з лёгкасцю ачысціла ўсе стэпы ад угра-фінаў з іх бронзай і адцяснілі іх у лясы поўначы.

Цяжка сёння гаварыць пра прычыны, але частка плямёнаў інда-арыяў раптам пачала зніманца з пажытых месцаў у Індыі і рушыла на радзіму да гораў Хара і Меру. Гэта былі розныя плямёны і ішлі яны рознымі маршрутамі. Першымі ў Еўропе ў 8-м стагоддзі да н.э. з’явіліся італікі. Яны захапілі Апенінскі паўвостраў. Кельты засялілі паўночны захад Еўропы. У 7-м ст. з’явіліся германцы. У 6-м прыйшлі балты і славяне. Усе гэтыя племянныя аб’яднанні былі вельмі розныя больш цывілізаваныя і менш. Так напрыклад сярод германцаў моцна выдзяляліся готы. Яны мелі магутную збройную сілу, дасканалую зброю. Гэтыя нешматлікія плямёны, як дзіды пранізвалі старажытную Еўропу. Вестготы прарваліся за Пірэнеі і заснавалі там каралеўства. Остготы дайшлі да Скандынавіі, але мабыць, ім не спадабалася Поўнач і яны вярнуліся ў Прычарнамор’е. Гэта былі настолькі магутныя воіны, што рымскія легіёны не маглі супрацьстаяць готскай конніцы. Адным з найбольш вядомых правадыроў готаў быў Германарыкс, (правільна Germanorex) кароль германцаў.

Усе арыйскія плямёны імкнуліся на гістарычную радзіму да гор Хара і Меру. Але за тысячагоддзі ў памяці плямёнаў сцерлася іх дакладнае месцазнаходжанне. Тым не менш усе яны прыблізна імкнуліся да адной кропкі, да адной тэрыторыі. Адны не дайходзілі іншыя пераходзілі, але гэтая кропка была на ментальнай карце арыяў.

*(Заканчэнне ў наст. нум.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 24. 05. 99 г.
Наклад 4500 асобнікаў. Замова № 1254 .
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 10 000 руб.